**№ 29 (1842)**

Серада, 18 лютага 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -1...+1, уначы — -9...-7, на працягу сутак — снег; у Брэсце ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — -2...0, снег; у Гродне ўдзень — -1...+1, уначы — -6...-4, на працягу сутак — снег; у Віцебску ўдзень — -3...-1, снег, уначы — -14...-12, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — снег; у Магілёве ўдзень — -1...+1, уначы — -10...-8, на працягу сутак — снег.

www.meteo.by



**ПУЛЬС**

## Улады «накармілі» галадоўшчыкаў

Перамогай завяршылася двухтыднёвая галадоўка індывідуальных прадпрымальнікаў Віцебска. Пасля зацяжных і складаных перамоў, якія цягнуліся з дзвюх да пяці гадзін, урадавая камісія пайшла насустрач удзельнікам пратэсту, задаволіўшы патрабаванні галадоўшчыкаў.

Старшыня Віцебскай гарадской арганізацыі "Перспектыва" Анатоль Шапавалаў лічыць галоўным дасягненнем галадоўшчыкаў прызнанне з боку Саўміна патрэбы ў стварэнні адмысловага закона аб прадпрымальніцтве, які — і выключна толькі такі закон — мусіць рэгламентаваць прадпрымальніцкую дзейнасць, а не вертыкаль.

Пераведзеныя ў статус "гандлёвых цэнтраў" крытыя рынкі Віцебска будуць гандляваць па правілах рынкаў; крамы застаюцца плацельшчыкамі адзінага падатку.

**Рыгор БУЯН.**
**pahonia.promedia.by**

## Мінюст маўчыць...

Заўтра споўніцца два месяцы пасля таго, як небезвядомы С.Гайдукевіч правёў гэтак званы з'езд Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, які прайшоў, як пісалі газеты, у абстаноўцы поўнай таямніцы, пры зачыненых ад журналістаў дзвярах.

Апаненты С.Гайдукевіча звярнуліся ў Мінюст з просьбай даць юрыдычную ацэнку мерапрыемству, пры гэтым яны прадставілі міністэрству поўны камплект дакументаў, пацвярджаючых, на іх погляд, нелегітымнасць з'езду.

Мінюст маўчыць, быццам вады ў рот набраўшы. Чаму? Не цяжка адказаць...

**Сяргей КАРАЛЬЧУК.**

## Чакаюць студзеньскую зарплату

Агульная сума нявыплачанага заробку складае, па дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, 490 млрд. 377,5 млн. рублёў (38,9 % ад фонду заработнай платы студзеня).

Нявыплачаны студзеньскі заробак ва ўстановах канцэрна "Беларускія мастацкія промыслы" складае 88,8 % ад фонду месячнай зарплаты, Мінжылкамгаса — 82,8 %, Мінтранса — 78,9 %, "Белмясцпрама" — 73 %, "Беллегпрама" — 72 %.

Сярод рэгіёнаў краіны найбольшая доля нявыплачанай за студзень зарплаты — у Віцебскай вобласці, там яна складае 82 % ФЗП. У Магілёўскай вобласці гэты паказчык раўняецца 81,6 %, у Гродзенскай — 71,5 %.

**Сяргей ІВАНОЎ.**

**БІЯТЛОН: ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ**

## Страляйце — трапна! Бегайце — хутка!

*Учора ў 18.30 на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску адбылася цырымонія адкрыцця 9-га чэмпіянату Еўропы па біятлоне. А гэта значыць, што першынство кантынента, якое пройдзе з 18 па 22 лютага ў Раўбічах, ужо стартавала!*

Безумоўна, чэмпіянат Еўропы — гэта не чэмпіянат свету, які толькі ў гэтыя выхадныя завяршыўся ў нямецкім Аберхофе, і грандаў сусветнага біятлона мы не ўбачым. Аднак паляк Томаш Сікора, які падаў заяўку на выступленне на гэтым першынстве Еўропы, у тым жа Аберхофе стаў сярэбраным прызёрам у гонцы на 20 км і ўвогуле ў заліку Кубка свету ўваходзіць у дзесятку Кубка свету. Парадаюць беларускіх балельшчыкаў і балгаркі — алімпійская чэмпіёнка Кацярына Дафоўская і прызёрка Алімпіяды ў Солт-Лэйк-Сіці Ірына Нікулчына. За ўкраінскую зборную будуць бегчы вядомая Алена Пятрова і не менш вядомая беларусам наша зямлячка Ірына Тананайка.

А ўвогуле відовішча абяцае быць захапляльным. Ды і засумавалі ўжо нашы балельшчыкі па вялікім біятлоне — апошні раз у Раўбічах праходзіў чэмпіянат Еўропы ў 1998 годзе (у 1974, 1982, 1990-х гадах тут ладзіліся чэмпіянаты свету).

Работу арганізатары правялі таксама велізарную. Апошнія дні тры снежныя пушкі працавалі ў Раўбічах так, што запасу снегу хопіць яшчэ, калі спатрэбіцца, і на Драздоў. Сучаснае табло будзе паказваць як лічбавую, так і відэакарцінку падчас усёй гонкі, а вынікі стральбы можна будзе ўбачыць на фінскім электронным табло.

8 аўтастаянак, думаю, не створаць праблем для жадаючых прыпаркаваць сваю машыну, а для тых, хто будзе дабірацца ў Раўбічы "самаходам", прапануюцца аўтобусы, якія будуць пастаянна курсіраваць ад аўтастанцыі "Маскоўская" (без часу адпраўлення — як напоўняцца, так і "пакурсіруюць").

Дарэчы, цырымоніі ўзнагароджання 18, 19, 21 лютага будуць праходзіць на Кастрычніцкай плошчы ў 19.30. 22 лютага, у 17.00, усё на той жа плошчы пройдзе ўзнагароджанне апошніх пераможцаў і ўрачыстае закрыццё чэмпіянату.

**Алесь СІВЫ.**

**ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ**

## Каму наладжваць масты?

*Лідэры «5+» падсумоўваюць вынікі свайго візіту ў Вашынгтон*

Як ужо паведамлялася, днямі дэпутат Палаты прадстаўнікоў Валерый Фралоў і прадстаўнік "трэцяга сектара" з Гродна Аляксандр Мілінкевіч разам з лідэрамі народнай кааліцыі **"5+"**, у якую аб'ядналіся вядучыя апазіцыйныя сілы Беларусі, правялі ў Вашынгтоне (ЗША) шэраг сустрэч на вышэйшым узроўні з вядучымі амерыканскімі палітыкамі.

На думку старшыні грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" **Вінцука ВЯЧОРКІ**, *"узровень сустрэч "пяцёркі" ў ЗША быў найвышэйшым з тых часоў, калі былы кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч вітаў у Мінску прэзідэнта Біла Клінтана, і ўжо сам факт прыёму дэлегацыі "пяцёркі" ў лінкальнаўскай зале Кангрэсу — гэта ёсць пэўны і вельмі сур'ёзны знак увагі да сітуацыі ў Беларусі"*. В.Вячорка таксама лічыць, што тая *"выключная стомленасць ад "беларускага пытання", якая наступіла ў ЗША пасля 2001 года ў выніку няўдалых для дэмакратычнай будучыні Беларусі прэзідэнцкіх выбараў, а таксама з нагоды тэрарыстычных актаў у ЗША, пачала змяняцца — Беларусь выходзіць з ценю і зараз зноў знаходзіцца ў цэнтры ўвагі амерыканскай і міжнароднай палітыкі"*.

*"Калі ў канцы 2001-га і ў 2002 годзе асноўнымі словамі ў ЗША для характарыстыкі беларускай апазіцыі былі "расколатасць" і "падзеленасць",* — распавёў сп. Вячорка пра адносіны амерыканскага палітычнага бамонда да дэмакратаў, — *то цяпер нашы суразмоўцы ў Амерыцы адзначылі беспрэцэдэнтную ступень аб'янання і рэальнасць стратэгічнага сцэнарыя. У выніку пабудовы народнай кааліцыі* **"5+"** *мы набылі пэўны арганізацыйны патэнцыял і пэўны крэдыт даверу з боку беларускага грамадства, і гэты патэнцыял мы абавязкова скарыстаем падчас парламенцкіх выбараў"*.

Сп. Вячорка таксама паведаміў прысутным на прэс-канферэнцыі журналістам, што ў хуткім часе "беларускае пытанне" будзе вынесена для разгляду на Парламенцкай асамблеі НАТО, а таксама абазначыў асноўныя тэмы, да якіх накіравана зараз увага амерыканскіх палітыкаў: гэта справы зніклых, парушэнні правоў прафсаюзаў у Беларусі, антыдэмакратычнае рэлігійнае заканадаўства, рэпрэсіі ў адносінах да Беларускага гуманітарнага ліцэя, галадоўка віцебскіх прадпрымальнікаў...

(Заканчэнне на 2-й стар.

**ПОДРОБНОСТИ**

# Егора Рыбакова обвиняют в хищении, взяточничестве и злоупотреблении служебными полномочиями



*В отношении бывшего председателя Национальной государственной телерадиокомпании Егора Рыбакова возбуждено уголовное дело.*

Как сообщил начальник пресс-центра Прокуратуры Беларуси **Юрий Азаренок**, дело возбуждено ***"по фактам злоупотреблений служебными полномочиями, хищений и получения взяток от руководителей коммерческих структур за принятие благоприятных для них решений при заключении различных договоров"***.

13 февраля Е.Рыбаков был взят под стражу. Это произошло сразу же после его допроса в прокуратуре.

16 февраля заместитель генерального прокурора **Виктор Прус** санкционировал применение к Рыбакову меры пресечения в виде заключения под стражу.

*"Егор Рыбаков нанес вред Белорусскому телевидению,* — так прокомментировал снятие с должности Рыбакова один из бывших редакторов. — *Была разрушена преемственность. Старшее поколение всегда передавало свой опыт молодым, поскольку не может человек прийти из университета или института и сразу делать передачу. А Рыбаков просто уволил высочайших профессионалов.*

*Непонятна ситуация с белорусским языком на БТ. В самые застойные времена новости всегда шли только на белорусском языке, и отношение к языку было очень бережное".*

В пресс-службе Белтелерадиокомпании не комментируют снятие Рыбакова и не называют возможную кандидатуру его преемника.

Пока обязанности председателя Белтелерадиокомпании исполняет первый заместитель председателя **Александр Соломаха.**

По словам заместителя главы Администрации президента **Олега Пролесковского,** который 13 февраля встречался с руководителями структурных подразделений Белтелерадиокомпании, новым председателем НГТРК станет человек, который *"хорошо знает это дело"*. Пресс-секретарь президента **Наталья Петкевич**, также принимавшая участие в этой встрече, тотчас развеяла слухи о том, что кабинет Рыбакова якобы должна занять именно она.

*"Люди, которые здесь присутствуют, на должность председателя НГТРК не претендуют",* — заметила Наталья Владимировна.

В кулуарах среди возможных кандидатов на пост председателя НГТРК называют нынешнего заместителя председателя **Александра Мартыненко.** Однако отдельные сотрудники БТ полагают, что на роль главного начальника Белтелерадиокомпании Александр Иванович не тянет. Характер не тот.

Впрочем, так ли уж важно, кто возглавит НГТРК? Важно, чтобы Белорусское телевидение и радиовещание наконец-то стали по-настоящему популярными, интересными, нужными миллионам телезрителей и радиослушателей.

**Марина КОКТЫШ.**
**Коллаж Александра СИЛИЧА.**

**С ЮБИЛЕЕМ!**

# Возвращенец

*Сегодня, 18 февраля, исполняется шестьдесят лет* ***Евгению БУДИНАСУ*** *— известному писателю, предпринимателю, издателю знаменитой книжной серии "Итоги века", создателю и первому хозяину единственного в своем роде музея материальной культуры "Дудутки", автору романа "Дураки", ставшего полуподпольным бестселлером. С юбиляром беседует наш корреспондент.*

**— Ходили слухи, что после выхода "Дураков" Вы уехали в Вильнюс. Совсем...**

— Было. Думал так: итог подвел и уехал. Казалось бы, идеальный вариант: и за границу, в Европу и вместе с тем домой. Туда, где вырос, где мальчишкой гонял голубей, где первая любовь, где каждый камень знаком...

**— И что же?**

— Продержался год. Оказалось, не так просто выбросить из жизни сорок лет, где столько прожито, где немало свершилось, где все обрелось и порушилось... Да и стыдно, как сказал главный герой "Дураков", уходить проигравшим. Мечтал поскучать, но оказалось совсем тоскливо, когда никто тебя не знает и никому ты не нужен.

**— Им-то в Литве не скучно. Столько событий...**

— Но это не мой бал. У них там импичмент — как мыльная опера, вся страна у телевизора: президент что-то нарушил, кому-то не "по правилам" дал гражданство. Катастрофа. А здесь — целые своды поруганных законов. Украсть, обмануть, оскорбить, ограбить — вроде нормы, жизни достойнейших людей порушены, никто не знает, где твоя могила, Витя Гончар... От этого не уезжают. Счет-то еще даже и не предъявлен. А без этого — какие же итоги?..

**— И Вы вернулись, чтобы заняться их подведением?**

— Нет, я вернулся, чтобы вспомнить свою давнюю профессию — я ведь газетчик. И в силу печатного слова верю. И знаю, что до той поры, пока мы не просветим народ, ничего здесь не изменишь...

**— Ну да, каждый народ имеет то, что он заслуживает...**

— Хотя сам народ и не виноват. Народ, тем более, простите за банальность, "талерантны і памяркоўны", идет туда, куда его ведут. Его сознание формирует элита. Это не только богема, чиновники или политики, это весь думающий люд, озабоченный не наполнением собственных кошельков, счетов в банке или судьбой собственных отпрысков, но и судьбой Отечества... Вот к этому люду мы и надумали обратиться. Как мы полагали, весьма остроумным способом.

**— Это каким же?**

— Попробовали "схимичить", использовав давнюю выучку. Годы работы в публицистике периода застоя выучили меня писать "умно". То есть так, чтобы дойти до читателя, обдурив официальную цензуру... Собрали команду, нашли деньги, авторитетную "крышу" и стали делать "Хорошую газету", веселую, аполитичную — взамен беспросветной "чернухи". Людям ведь нужен не только свет в конце туннеля, но и фонари на его стенах. И слоган придумали мирный: "Плывя в одной лодке, не обязательно драться веслами". Хотели завоевать массовую аудиторию, полагая, что, получив такой инструмент, сможем воздействовать на общество, ненавязчиво поворачивая его к нормальной жизни.

**— И сколько вы выпустили номеров? Что-то на глаза ваша газета не попадалась...**

— Ни одного. Только сигнальный — в единственном экземпляре, на память. Хотели перехитрить всех, но переиграли себя. Никакой массовой газеты, как бы хороша, как бы добра, даже как бы аполитична она ни была, здесь не может быть. Кроме президентской (читай: "хорошей") газеты "Советская Белоруссия". Политичен (читай: "опасен") сам массовый тираж. Если он не санкционирован и не управляем сверху. В условиях, когда понятие "добро" узурпировано тем, кто олицетворяет власть.

**— Здесь Вам и вспомнился Интернет. И Вы решили создать новый информационно-аналитический портал...**

— При всей моей нелюбви к компьютерной технике, Интернет — единственная в наших условиях возможность свободно писать, что думаешь и выходить на аудиторию. Ради чего мы и создали наш независимый портал "BelarusFree.org"... который сразу оказался зависимым.

**— Это как же?**

— Очень просто. В поисках ответа на традиционный вопрос "Что же делать?" нам пришлось окунуться в политику...

**— И сразу на Вас "наехала" власть...**

— Хуже. На нас сразу и со всех сторон наехала оппозиция. Оказалось, что наши записные демократы не терпят критики хуже власти. Назвался демократом, слова о нем плохого не скажи (кроме Лукашенко, он ведь тоже считает себя демократом). Мы и не говорили бы, если б не знать, что сегодня промолчишь, значит, завтра снова будешь жить в совковом дерьме.

**— А в чем же Вы с ними так не согласны?**

— Оказалось, что во многом, кроме расхожего представления, что власть надо менять... На самом деле я наших политиков очень даже люблю. И уважаю за твердость духа, за самоотверженность, за образованность — и Винцука Вечерку, и Юрия Ходыко. И Сергея Калякина — тоже, он мне особенно симпатичен, несмотря на партийную принадлежность. Но никак не могу согласиться с их нежеланием видеть хотя бы то, как относятся к ним нормальные, неполитизированные люди. Что говорят, что думают.

**— А что говорят, что думают?**

— Что запутались в межпартийных разборках. Что подзабыли дорогу в народ... Опять нам рассказывают сказки про единого кандидата, которого они вырастят и предъявят обществу. При этом каждый второй имеет в виду себя. Я знаю не меньше тридцати человек, каждый из которых уверен, что он может быть президентом.



**— А почему Вы думаете, что не может? Лукашенко-то до прихода к власти особыми достоинствами руководителя не блистал.**

— Каждый действительно может. И любая кухарка действительно может управлять государством. Но не каждый этим управителем может стать. У Лукашенко тогда все сложилось. Как раньше сложилось у Позьняка. Но один прорвался на пост главы государства, а другой — нет.

**— Почему?**

— Потому что одного терзала неуемная жажда власти, а другому не давала спать судьба Отечества... Что-то этой жажды власти, от которой человек может все, даже поумнеть, я у наших политиков пока не вижу. Кто-то новый должен однажды отважиться и прорваться вперед, как танк...

Но как жаль, что мы только об этом и говорим. Тем более перед юбилеем. Вообще жаль, что мы все больны этой заразной болезнью. Мы ведь о политике, о Лукашенко и дома говорим, и на работе, и на отдыхе, и даже за границей — заставляем несчастных иностранцев нас слушать, за нас переживать.. Нам бы научиться жить так, как нормальные здоровые люди живут. Не зная толком, кто у них президент. И думать бы, и говорить о другом. И книги писать не о том, какие мы дураки. А о важном, о главном...

**— И что же это — главное? О чем Вам хочется говорить, думать, писать?**

— О вечном. О юности. О мудрости . О Женщине. О любви и измене. О дружбе и предательстве. О прожитом не зря...

**— Говорят, человек с годами становится мудрее...**

— Меня это не коснулось. По паспорту шестьдесят, а в душе — мальчишка.

**— Тем не менее, что из усвоенного Вы хотели бы передать сыну в качестве наставления? Может быть, у Вас есть любимое изречение...**

— Почему только одно? Их навалом. И почему только сыну? И двум дочерям... Помню, Евгения Кузьминична, супруга ректора института, где я учился, наставляла: "Парень, парень, сколько тебе повторять: чтобы не расстраиваться, надо — не настраиваться".

**— Получалось?**

— Не очень. И настраиваюсь, и расстраиваюсь. До сих пор. Но дочкам пусть бы привилось... Правда, есть другая мудрость, которая не позволяет на это надеяться: "Никогда не давай умных советов и не следуй им". Тоже не очень получается, особенно с первым. Мы ведь на чужом опыте не умеем учиться, только собственные шишки признаем. Но вот сыну я хотел бы передать по наследству великий совет, который отец мне выдал незадолго до своей смерти. "Евгений, — сказал он, — никогда не смешивай людей, б... и лошадей. Из этого ничего не получится". О, если бы научиться не смешивать! Когда все так переплелось...

**— А "самопальные" изречения у Вас есть?**

— Тоже навалом, но главное из них, пожалуй, такое: "Принципы — это не то, с чего следует начинать, а то, к чему приходят в итоге". Это я своей однокласснице сказал, когда понял, что у нее слишком строгие принципы.

**— Вот-вот, давайте об итогах. Грешили много. В чем раскаиваетесь? Что готовы повторить?**

— На эту тему у меня есть любимый анекдот. К умудренному опытом писателю пришла брать интервью студентка-второкурсница. Когда прощались, она, посмотрев на полку, где стояли его книги, спросила: "Интересно, о чем Вы думаете, окинув взглядом свой жизненный путь и имея столько книг?" — "Глядя на вас, я вспоминаю, как на втором курсе, поехав на сельхозработы, мы копнили с Инкой сено. Я внизу, она наверху. В конце концов я перебрался к ней, и мы занялись тем, чем и следовало заняться. Так вот сейчас я думаю, что если бы у меня тогда были все эти тома, я бы их подложил Инке под спину, и мы бы с ней не проваливались..."

Вот этот грех я готов повторять. Благо есть, что подложить, и знаю, что так — удобнее.

**— Интересно, как к этому относится Ваша жена?**

— Мне кажется, что я идеальный супруг. Не пьяница, не картежник, не рыбак и не охотник. Всего два хобби, две радости в жизни: работа и любовь.

(Окончание на 2-й стр.)

**ТЕМА ДНЯ**

## Почему так труден путь к согласию?

Управление по работе со СМИ российского "Газпрома" сообщило об очередной рабочей встрече своего шефа — председателя правления Алексея Миллера и генерального директора ОАО "Белтрансгаз" Петра Пётуха и о том, что они обсуждали вопросы поставок российского газа в Республику Беларусь. Далее намекается, что поставки газа по действующему контракту заканчиваются. Словом, опять встретились, поговорили, но к согласию так и не пришли, ибо никто не хотел уступить. Что же будет с газом?

Александр Лукашенко в ходе посещения ОАО "Белтрансгаз" заметил, что "страна без топлива не будет — это исключено". "Несмотря на различные сложности в ведении переговоров, белорусские потребители никоим образом не будут ощущать на себе проблемы с энергоресурсами. Государство обеспечит свою энергетическую безопасность", — заверил он. Между тем российские СМИ подчеркивают твердую позицию "Газпрома", который не намерен отступать от своих требований. Его специалисты скептически отнеслись к позиции Лукашенко, высказанной во время посещения "Белтрансгаза". "У нас есть газ, который мы готовы продать Беларуси. Если же мы будем идти навстречу всем желаниям покупателя, это не бизнес, а игра в поддавки", — заявил "ГАЗЕТЕ" источник в "Газпроме". В то же время "Известия.RU" утверждают: "О том, что белорусская противовоздушная оборона Россией используется "за копейки", Лукашенко заговорил впервые — судя по всему, это один из его последних козырей в споре с Москвой. Впрочем, именно этот козырь может перебить все предыдущие аргументы и заставить Москву пойти на уступки".

Чьи аргументы окажутся сильнее? Что будет с газом? Ситуация может проясниться в ближайшее время.

**Евгений ТАВГЕНЬ.**

## Аляксандр Лухвіч адмовіўся ад выступленняў за зборную

Паводле інфармацыі прэс-службы Беларускай федэрацыі футбола, на адрас БФФ паступіла заява футбалістаў, у якой гаворыцца: "Прашу мяне, Лухвіча А.А., больш не прыцягваць у рады зборнай каманды Беларусі па футболе ў сувязі з узростам і жаданнем даць дарогу маладым футбалістам".

А.Лухвіч абараняў колеры зборнай з 1996 па 2003 год. За гэты перыяд ён правёў 32 матчы. Дэбютаваў 31 ліпеня 1996 года ў таварыскай сустрэчы са зборнай Літвы, удзельнічаў у адборачных турнірах чэмпіянату свету 2002 года і чэмпіянату Еўропы 2000 і 2004 гадоў.

У інтэрв'ю афіцыйнаму сайту "Тарпеда" футбаліст матываваў сваё рашэнне наступным чынам: "Лічу, што мне найважней зараз засяродзіцца на гульні за "Тарпеда", у маёй сітуацыі не пажадана распыляцца на два франты. Я напісаў адпаведную заяву, а галоўны трэнер зборнай Анатоль Байдачны незадаволены маім учынкам. Але, думаю, такое рашэнне пойдзе на карысць майму клубу".

Тым часам зборную Беларусі чакае першы сёлета міжнародны турнір — на Кіпры. Спаборніцтвы пройдуць з 17 па 22 лютага.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**КРЫМІНАЛ**

## Скралі, ледзь не патравіліся...

У Гомельскім раёне выкрадзены ядахімікаты на суму 358 тысяч долараў ЗША.

Як паведамілі ў прэс-службе абласнога УУС, у Гомельскі аддзел унутраных спраў звярнуўся намеснік дырэктара ААТ "Гомельхімсэрвіс" з заявай аб разбойным нападзе. Ён паведаміў, што 15 лютага познім вечарам пяцёра невядомых людзей у чорных вязаных шапачках з дзіркамі для вачэй прабраліся ў адміністрацыйны будынак у вёсцы Яроміна Гомельскага раёна. Злачынцы звязалі 46-гадовага майстра змены пагрузачна-разгрузачных работ і заехалі на тэрыторыю прадпрыемства на грузавой аўтамашыне. Пад пагрозай прадмета, падобнага на пісталет, яны звязалі 28-гадовага вартаўніка складскіх памяшканняў, зламалі мясцовую аўтаномную сігналізацыю і зайшлі ў памяшканне склада, адкуль выкралі ядахімікаты рознага наймення.

Паводле ацэнак спецыялістаў, агульны кошт выкрадзеных хімікатаў складае 358 тысяч долараў ЗША.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

